рыж адкладаецца дзеля яго хваробы.

**Выбары ў Швецыі** ў мястовыя рады далі перамогу правым партыям.

**Камуністычны рух у Італіі.** Сярод работнікаў беспераставьня падрастаець. Нядаўна на мітынгу ў Турыне 2/3 галасоў работнікі аддалі за камуністаў.

**Падзел панскай зямлі ў Славакіі**, належачай да вялікіх двароў, глаўным чынам, вянгерскіх магнатаў, будзе зроблены, як паведамляюць з Прагі, у самым бліжэйшым часе.

**Дарагоўля ў Варшаве.** Як паведамляе газета „Robotnik“, цэны ў Варшаве растуць штодня. Хлеб у панядзелак быў па 47 марак за хунт.

*Субота*, 15-*га студня* 1921 *г.*

**Плебісцыт.** Рада Лігі Народаў пастанавіла зрабіць у нас плебісцыт не раней, як у марцы.

**Францускі прэм'ер - міністр Лейг** падаўся ў адстаўку.

**Конфэрэнцыя расейскіх партый.** Ува Францыі адбываецца конфэрэнцыя расейскіх эсэраў і меншавікоў з аднаго боку і бальшавіцкіх дэлегатоў з другога. На конфэрэнцыі ёсьць Керэнскі, Чарноў і інш., якія ўжо йдуць на ўступкі бальшавікам.

**Ленін захварэў.** Пакліканы ў Маскву з Нямеччыны рабіць яму апэрацыю лепшыя дактары Гісе і Саль.

**Цэны ў Амэрыцы** на некаторыя тавары, як скура, прадзева, цукер і кукуруза, спусьціліся да перадваенных цэн.

**Гандаль з Расеяй.** З 1 па 15 сьнежня цераз Рэвель прайшло ў Расею 321 вагон розных тавараў, у тым ліку 79 вагонаў сукна. З Расеі прыбыла 161 пусты вагон і шмат пудоў золата для Швецыі.

**Ірляндыя.** Перагаворы між ангельскім урадам і сінфэйнерамі перарваліся пасьля першага-ж паседжаньня. Прадстаўнікі Ірляндыі вымагалі прызнаньня незалежнай Ірляндзкай рэспублікі.

*Нядзеля*, 16 *студня* 1921 *г.*

**Расейская контр-рэвалюцыя.** Усе сябры расейскага Установчага Сойму, якія сабраліся на зьезд ува Францыі призналі, што цяпер ужо і гутаркі ня можа быць аб змаганьні з бальшавікамі сілай чужацкіх войск і што бальшавізм павінен згінуць ад рук самаго расейскага народа.

**Рэвалюцыйны рух ў Індыі.** З Масквы ў Рыгу паведамляюць, што ў Індыі рэвалюцыйны рух усё расьцець, дзеля чаго ўрад Індыі адзывае з Месапатаміі і Эгіпта 30 баталёнаў пяхоты.

**Расея, Англія і Пэрсія.** Ангельскія газэты паведамляюць, што бальшавікі рыхтуюцца з вясны кінуць вялікія сілы, сабраныя ў Баку, на Пэрсію, дзеля чаго ангельскае пасольства ў Тэгеране распачало эвакуацыю з Пэрсіі ангельскіх жанчын і дзяцей.

Мужчыны - ангельцы выяжджаюць з Пэрсіі вясною, разам з ангельскім пасольствам, адначасна з якім выяжджае шах і яго двор.

**На Украіне.** „Рідный Край“ пішаць водле вестак кіеўскага штаба, быццам уся лінія Дняпра ад Кіева да Хярсона занята паўстанцамі.

**Расея і Францыя.** Бальшавіцкі параход напаў на патрульны францускі контр-мінаносец, які пільнаваў за перавозкай па Чорным моры контрабанднага аружжа.

**Кляра Цеткін.** Сярод францускіх работнікаў вядзе вялікую агітацыю вядомая нямецкая камуністка Кляра Цеткін, якая нейкім дзіўным спосабам здолела прабрацца ўва Францыю.

*Панядзелак*, 17-*га студня* 1921 *г.*

**Іоффэ аб золаце для Польшчы.** З Рыгі паведамляюць, што ў гутарцы з супрацоўнікам ангельскіх газэт Іоффэ заявіў, што прынцыпіяльна Расея лічыць польскія дамаганьні золата бязгрунтоўнымі. Калі можа быць мова аб падзеле золата, то хіба толькі той часткі, якая сабралася ад падаткаў, значыцца, 300 міліёнаў, з якіх Польшча магла бы дастаць 20 міліёнаў.

**Англа-савецкая умова.** Ангельскія газэты ўжо друкуюць тэкст англа-савецкае гандлёвае ўмовы. Расейскія караблі будуць дапушчаны ў ангельскія гавані. Савецкі ўрад можа назначаць у Англію сваіх консулаў. Умова можа быць парушана, папярэдзіўшы за 6 месяцаў. Ангельскі ўрад не рэквізуець і не карыстаець для сваіх мэтаў з таго золата ці іншых цэнных рэчаў, якія будуць прысланы з Масквы для расплаты за дастаўленыя тавары.

**Здароўе Пілсудзкага** пагоршала.

**Новы францускі кабінэт міністраў** будзе складаць старшыня палаты дэпутатаў Аруль Пэррэ.

**Плебісцыт у В. Сілезіі.** Польскія газэты паведамляюць, што немцы ў В. Сілезіі за вялікія грошы купляюць галасы для плебісцыта.

*Аўторак*, 18 *студня* 1921 *г.*

**Ленін хварэе.** З Масквы паведамляюць, што Ленін заняўздолеў надта цяжка.

**Блёкады ўжо няма.** Англія паведаміла савецкі ўрад, што ёю зьніштожаны кардоны з падводных мін, ці йначай кажучы, зьнята блёкада.

**Балтыцкая конфэрэнцыя.** У блізкім часе ў Рызе пачнецца другая конфэрэнцыя балтыцкіх гаспадарстваў. Будуць прадстаўнікі Польшчы, Фінляндыі, Эстоніі, Лацьвіі і Літвы.

**Перамога турак над грэкамі.** Турэцкія войскі Кемаль-пашы разьбілі ў Малай Азіі грэцкае войска. Турэцкія нацыяналісты галяцца захапіць Сьмірну.

**Камуністычная дэманстрацыя.** З Вены паведамляюць, што там была вялікая дэманстрацыя камуністаў.

**Францускі кабінэт** будзе складацца Брыанам, які мае ўзяць портфэль міністра заграніччных спраў.

**Амэрыканская армія**, водле пастановы Сената, будзе зьменшана да 150.000 чалавек.

*Серада*, 19-*га студня* 1921 *г.*

**Плебісцыт у В. Сілезіі** мае быць перанесены на 13 марца.

**Амэрыка і Японія.** Савецкае радыо паведамляе, што рыхтуецца вайна між Японіяй і Амэрыкай і, як відаць, у блізкім часе. Канада і Аўстралія будуць за Амэрыку.

**Украінскае каралеўства.** Газэта „Trybuna“ паведамляе, што б. украінскі пасол Васілька, як прадстаўнік заходняе Украіны, зрабіў тайную ўмову з бышай аўстро-венгерскай імпэратарскай фаміліяй у справе стварэньня украінскага каралеўства з Усходняе Галіцыі, Букавіны і Русі. Каралём мае быць Васіль Габсбург.

**Камуністы у Амэрыцы.** Арганізована грамадзкая варта з прычыны таго, што ў філядэльфіі нібы-то рыхтуюцца камуністы, каб узарваць колькі скарбовых будынкаў у Вашынгтоне і Нью-Іорку.

**Расея.** Распачаўся гандаль з Амэрыкай. За расейскі лён Амэрыка высылае вугальле і паперу. Тавары йдуць цераз Адэсу.

*Чацьвер*, 20 *студня* 1921 *г.*

**Расея і Украіна.** З Польшчы паведамляюць, што бальшавікі распачалі дзейнае змаганьне з сялянскімі паўстаньнямі на Украіне.

**Пэрсія.** Шах пэрсідзкі ўцёк з Тэгерану ў Шыраз, бо баіцца находу бальшавікоў.

**Францыя.** Вышаў закон, што прыехаўшы ўва Францыю без дазволу караецца турмою на 3 гады. Гэты закон мае на ўвазе змаганьне з наплывам камуністаў.

**Ірляндыя.** У працягу 1920 г. ў Ірляндыі сінфэйнеры (рэвалюцыянэры-незалежнікі) забілі 176 паліцэйскіх і 54 ваенных, ранілі 261 паліц. і 116 ваенн., зусім зьнішчылі 532 казармы, разбурылі 173, напалі на пошту і паязды 931 раз.

---

Е. КАНЧАР.

# Клясавае, нацыянальнае і рэлігійнае змаганьне на Беларусі.

## Тэрыторыя.—Насяленьне.—Клясавы склад.

I.

### ПРАСТОР.

Беларускае племя займаець губэрні: 1. Віленскую (п. Віленскі. Вялейскі, Дзісьненскі, Лідзкі, Ашмянскі, Сьвянцянскі, Троцкі); 2. Віцебскую (п. Віцебскі, Веліжскі Гарадоцкі, Дзьвінскі (былы Дзінабурскі), Дрысенскі, Лепельскі, Люцынскі, Невельскі, Полацкі, Рэжыцкі, Себежскі); 3. Горадзенскую (п. Горадзенскі, Берасьцейскі, Беластоцкі, Бельскі, Ваўкавыскі, Кобрынскі, Пружанскі, Слонімскі, Сакольскі), 4. Калуцкую (п. Жыздрынскі, Масальскі); 5. Ковенскую (п. Новаляксандраўскі); 6. Курляндзкую (п, Ілукстскі); 7. Менскую (п. Менскі, Бабруйскі, Барысаўскі, Ігуменскі, Мозырскі, Навагрудзкі, Пінскі, Рэчыцкі і Слуцкі); 8. Магілеўскую (п. Магілеўскі, Гомельскі, Гарэцкі, Клімавіцкі, Амсьціслаўскі, Аршанскі, Рагачоўскі, Сеньненскі, Чаўскі, Чэрыкаўскі); 9. Арлоўскую (п. Бранскі, Сеўскі, Трубчэўскі); 10. Пскоўскую (п. Вялікалуцкі, Тарапецкі). 11. Смаленскую (п. Смаленскі, Бельскі, Вяземскі, Гжацкі, Дарагабужскі, Духоўшчынскі, Ельненскі, Красьненскі, Парэцкі, Рослаўскі, Сычаўскі, Юхнаўскі); 12. Сувалкскую (п. Аўгустоўскі, Сейненскі); 13. Цьвярскую (п. Асташкаўскі, Ржэўскі); 14. Чарнігаўскую (п. Мглінскі, Новазыбкаўскі, Старадубскі, Суражскі).

Усё месца, дзе жывуць беларусы, абхоплівае каля 7.310 квадратных мыль, або 353.878 квадратных вёрст. Гэты абшар блізка што роўны абшару Каўказа (412.310 кв. в.), больш за Фінляндыю (286.041 кв. в.), за Францыю (251.718 кв. в.), у тры разы больш за Царства Польскае (былой расейскай правынцыі—111.554 кв. в.).

На тэрыторыі, якую займаюць беларусы, налічаецца 1.429 валасьцей, 107 гарадоў, у тым ліку 5 губэрскіх (Вільня, Горадня, Магілеў, Менск, Віцебск, Смаленск), 14 пасадаў і 114,270 мясьцечак, сёлаў, вёсак і хутароў.

Шчыльнасьць насялёных пунктаў нязначная дзеля вялікага абшару земляў няўдобных, пустых, і занятых лесам і памяркоўна рэдка засялёных.

У 1897 г. на Беларусі пад лесам знаходзілась да 54 проц. усяе плошчы. К 1913 г. плошча лясоў зьменшылась да 25 проц. Наагул, за астатнія 25 гадоў лясная плошча зьменшылася мясцамі ў два, у тры і навет пяць разоў.

З гэтага відаць, што Белярусь гэта старана багатая пераважна лесам, навет будаўляным лесам. Асабліва многа лесу было ў паноў і у казны.

Па сваему грунту і геолёгіі Беларусь таксама мае шмат асаблівага. Вялізная частка краю занята тарфянымі і травянымі балотамі і пяском. Уся гэтая глеба (балотная і пескавая) ў цяперашні час ідзець над пашу і пад сенажаці (балоты). Балоты паступова робяцца сухімі поў-тарфянікамі, і аруцца пад ярыну (проса, грачыхі, аднагадовыя травы). З часам, пры стараньні паляпшэньня гаспадаркі, гэтыя балоты зробяцца надта добрым месцам для земляробства.

Апрача таго, балоты хароняць у сабе вялізарныя запасы торфу, каштоўнага, як апал, асьвятленьне і электрычная сіла (энэргія).

Пясок, наадварот з кожным годам зьнішчаець і задуваець добрыя грунты і тым самым прыносіць краю нявылічапую шкоду. Але з гэтай бядой можна змагацца задзержываючы пяскі пасадкай на іх лесу.

II.

### Насяленьне.

*I. Насяленьне Беларусі к 1 студню* 1913 *г.*

Тэрыторыю, занятую беларусамі, насяляюць і другія народы: маскоўцы, жыды, палякі, ліцьвіны, украінцы і іншыя. На 1 студня 1913 г. на Беларусі было жыхароў каля 15.755,7 тыс. чалав.

| | паветаў. | тыс. чал. |
|---|---|---|
| У Віленскай . . . . . | 7 | 1,980,9 |
| „ Віцебскай . . . . | 11 | 1,903,9 |
| „ Гродненскай . . . . | 9 | 2,025,0 |
| „ Ковенскай . . . . | 1 | 255,6 |
| „ Курляндзкай . . . . | 1 | 75,8 |
| „ Менскай . . . . . | 9 | 2,963,7 |
| „ Магілеўскай . . . . | 10 | 2,333,3 |
| „ Арлоўскай . . . . . | 3 | 728,5 |
| „ Пскоўскай . . . . | 2 | 266,9 |
| „ Смаленскай . . . . | 12 | 2,039,3 |
| „ Сувалкскай . . . . | 2 | 34,3 |
| „ Цьвярской . . . . | 2 | 304,2 |
| „ Чарнігаўскай . . . | 4 | 844,2 |

Чым далей ад цэнтру Беларускай зямлі, тым радзей становіцца беларускае племя. На ўсходзе і поўначы яно перамешываецца з маскоўцамі і пастунова прыймаець іх выгляд; на паўдні — з украінцамі, на заходзе — з палякамі, на паўночным заходзе з ліцьвінамі, і таксама пастунова прыймаець выгляд гэтых народаў.

Але калі ўзяць усё насяленьне, то на кожную сотню прыходзіцца ў сярэднім:

